Пераклад Васіля Раманава 2014 год.

## Мітрафан Доўнар-Запольскі

# Жаночая доля ў песьнях пінчукоў[1]

Пінскі ўезд Мінскай губ., займаючы вярхоўі Прыпяці, з мноствам рэчак, азёр і балот, пераразаючых яго ва ўсіх накірунках, з'яўляецца ці не адным з самых глугіх і незнаёмых куткоў нашай Айчыны. Гэта цэнтр Палесся, самая цікавая, самая характэрная яго частка, прырода, якая да гэтых пор дзікая і захоўвае сваю першабытную прыгажосць. Тут жыве загадкавы, хмуры паляшук, пра якога ўсім вядома даўнішняе апавяданне, як быццам бы на пытанне, што ён за чалавек, ён адказаў: "я не чалавек, я – пінчук". У грамадстве ўпарта трымаецца дзіўнае, фантастычнае ўяўленне аб гэтай частцы Палесся, яго прыродзе і жыхарах, і менавіта таму, што да гэтай пары і ў навуцы гэты край застаецца цёмным месцам[2].

Вось гэты край давялося мне паведаць летам мінулага году[3] па даручэнні Этнаграфічнага Аддзелу Імператарскага Маскоўскага Таварыства Аматараў Прыродазнаўства. Антрапалогія і Этнаграфія. Вынікам паездкі, між іншым, быў збор песень, сярод якіх лірічныя займаюць вельмі значнае месца[4]. Матывы іх вельмі разнастайныя; але самы цёплы душэўны матыў – гэта жаночая доля, з яе горыччу і радасьцямі. Гэты бок творчасьці пінчукоў мы і выбрамі тэмай нашага артыкулу. Пры гэтым лічыцца патрэбным папярэдзіць, што мы карысталісь толькі самастойна запісанымі песьнямі. Мы не лічылі патрэбным прыводзіць варянты

1) Надрукавана ў "Этнографическое Обозрѣніе".

2) Прац па этнаграфіі пінскага Палесся ня шмат: 1) Zienkiewicz, Piosnki gminne ludu Pińskiego Kowno. 1854. 2)Матэрыялы па геаграфіі і статыстыцы Расійскай Імперыі. Гродзенская губ., складзеныя палк. Баброўскім СПБ (заўвагі на стар 622-652 у часцы І). 3)VII том "Трудовъ экспедиціи в Заподно-Русскій край" артыкул Міхальчука аб пінкай гаворцы. 4)Карпінскі, "Говоръ пинчуковъ" (Русскій Филологическій Вѣстникъ 1888, 1). 5)Piesni obzędowe ludu ruskiego z okolic Pinska, zebral P. Bykowski, у II т "Zbioru wiadomosci do antropol. krajowèj. Krakow". 6)Святар Булгакаўскі "Пинчуки. Этнагрф. сборник" СПБ. 1890 г. 7) Памятная кніжка па Віцебскай губ. 1868 г., артыкул: "Свадебные обряды и пѣсни крест. Пинск. уѣзда". 8)Нашы "Замѣтки изъ путешествія по Бѣлоруссіи". 1890, 1891 г. г. №№202, 206, 210, 211, 217, 219, 220, 225, 232, 264, 265; 9, 18, 22, 23, 25, 27, 28. Да гэтага можна было б далучыць некаторыя дробныя заўвагі ў мясцовых выданнях. Акрамя таго, глядзіце маю кнігу "Пѣсні Пінчуковъ".

Больш падрабязную бібліяграфію Палесся можна знайсці у кнізе "Полѣсье – Библіографическіе матеріалы по географіи, статистикѣ, этнографі и экономическому состоянію Полѣсья (сѣв.-зап. и юго.-зап. край вообще и губ. Минская, Гродненская, Волынская, Киевская и Могилевская въ частности)", СПБ. 1883. 80 стр. VII+X+274+1 нен. Кніга складзена З. Пенкінай пры садзеянні В. І. Мяжова, але, на жаль, ужо выйшла з продажу.

3) Маецца на ўвазе 1890 г.

4) Надрукаваны ў кнізе "Пѣсни Пинчуковъ".

песень, хаця яны і падобныя да беларускіх і маларускіх, так як гэта будзе зроблена пры выданні саміх песень[5].

Дзяўчына ў вельмі раннім узросьце ўступае ў грамадскае жыццё, г. зн. у той счаслівы перыяд свайго жыцця калі на яе пачынаюць глядзець як нв дарослую, на маладую: на яе звяртаюць увагу хлопцы; яна, у сваю чаргу, засяроджвае сваю ўвагу то на адным то на другім, пакуль не абярэ сабе “дружка пуд мысьлі”. Такі час для дзяўчыны пачынаецца з гадоў пятнадцаці, калі яна пачынае прымаць удзел у “вячорках” (вечаровыя сходы моладзі абодвух стацей), у гульнях, песьнях, скоках. Але і да гэтага часу, будучы яшчэ дзяўчынкай 12-14 гадоў, яна прыглядалася да адносін паміж хлопцамі і дзяўчатамі, слухала іх песьні і спявала сама, дзе-нібудзь далей ад дарослых пра мілага чорнабрывага казака, пар горкую долю маладой у вялікай сям’і. Зараз, у 16 гадоў, пачынаецца толькі больш свядомае жыццё. На сьвяты дзяўчына какетліва ўпрыгожвае галаву “квіткамі” (кветкамі), “кітайкамі” (стужкамі), нашывае пярэдні борт і рукавы сарочкі і інш. Час, калі свабодна развіваецца “дзявоцкая краса, усяму роду прыкраса”, недоўгавечны; дзяўчына разумее гэта і спяшаецца атрымаць асалоду ад прыроды і маладога жыцця. Яна разумее, што пройдзе год-два і прыйдуць сваты, можа быць ад нямілага із другой вёскі і яе бацькі аддадуць, адарвуць ад мілага, аддадуць на “чужую чужыну, ў вэлыку сэм’ю, у цяжку нэволю”. Між іншым прыгажосць дзяўчыны ў гэты час толькі пачынае разкрывацца ва ўсю сваю моц. Пінчучка, стройная, сярэдняга росту, з доўгай русай касой, рэдка чорнай, з вялікімі карымі ці шэрымі вачамі і цёмнымі брывамі, пры пяшчотным белым колерам твару – вельмі прыгожа. Пры гэтым пінчукі зусім не панурыя: наколькі важныя і сталыя прадстаўнікі абодвух стацей у сталым узросьце, настолькі ж вясёлае і гуллівае малодшае пакаленне. Святочныя дні і вечары моладзь праводзіць шумна і весела, сярод песень, гульняў на трубах, у скоках, у вандроўках вялікімі гуртамі ў лес за грыбамі і ягадамі і інш. Яны шумна спраўляюць усе свае звычаі: на Троіцу, у дзень Івана Купалы, на Каляды, на Паску – чуюцца вяселыя песьні адпавядаючага выпадку зместу. Зімой на “вячорках”, спяваюцца песьні зімовыя, філіпаўскія і вялікапосныя.

У песьнях гэтая пара дзявочага жыцця адлюстроўваецца вельмі рэльефна; “мілы” займае ў іх, бязспрэчна, асноўнае месца.

Уже сонца ныззэнько, уже вэчер блызэнько,
Прыбувай до мэнэ, казаче, сэрдэйко;
Прыбувай до мэнэ, до моеі хаты,
То я тэбэ ўпусцю, шчоб не чула маты,

Спявае дзяўчына з заміраннем сэрца. Яна чакае свайго мілага, не можа дачакацца, але нарэшце ён прыходзіць і вызывае яе гульнёю:

Ой, у саду вішня з під кораню выйшла,
Ой, казачэ грае, штоб дзеўчына вышла.
Ой, дзяўчына вышла, праву руку дала:
- Здороў, здороў, козаченько, доўго тэбэ ждала.

---

5) Глядзіце прыметы да названай кнігі, дзе паказаны варыянты.

Усе яе думкі заняты мілым; яна для яго “галовушку чэша і косу плэтэ”. “Ой, люблю я молойчыка – не нагляжуся; нэ так люблю, як з ім гуляю”, спявае яна.

Зразумела, захопленная каханнем, яна стараецца пераадолець усе сустракаючыяся на яе шляху перашкоды. Калі яна чуе ад мілага, што ён не можа прыйсьці да яе “за ліхімі ворогамі”, яна спявае:

Я ворогі потопчу под ногі, круту гору перескочу, -
Оддай мэнэ маты за кого я сама схочу!

У песьнях сятра хлопца часьцяком з’яўляецца асобай перашкаджаючай збліжэнню яго з дзяўчынай. Матыў па якому яна стрымлівае хлопца ад паездак ”до тое дзеўкі, шчо верно кохаеш”, чаму і хавае яго сядло, - песьня тлумачыць такім чынам:

Бо тая дзеўка не умее жаты,
Ні вышываты, тольку косу чэсаты:
- Ой, росты ж кэса, ніжэй пояса,
То я буду чэсаты.

Рэкрутчына – таксама значная перашкода, парываючая любоўныя адносіны. Аплакваючы свайго мілага, узятага ў жаўнеры, дзяўчына:

Плакала, рыдала, слёзы утырала
Сваёй русою косою, правою рукою.

Цікава, што песьні як быццам бы, зусім не ведаюць пра маці, якая з’яўлялась бы перашкодай да сбліжэння маладых людзей. У маім зборніку ёсць толькі адна, дарэчы не безцікаўная, песьня, перадаючая размову маці з сынам з нагоды яго начных паходак. Песьня гэта выдатная па свайму мяккаму матыву і па зместу. Я прывяду яе цалкам усю:

- Дзе ты, хмелю, зыму зымаваў, шчо нэ распускаўса?
Дзе ты сыну, ноч ночоваў, шчо не разуваўса?
- Зымоваў я, зымоваў, у лузі на тычіні,
Нововаў я, ночоваў, у слаўное дзеўчіны
- Нэхороше, сынку, робыш, што по наче ходыш:
Скаржілыся молодыці, шчо ты шкоду робіш.
- Ой, робыў я, моя матко, і буду робыты:
Було мэнэ, моя матко, у сем леты оженыты.
- Ой, я ж тобе, мой сыночку, дай не боронила:
Було тобе оженытысь, скоро я родыла.

Але і апроч староннiх перашкод і ўмяшанняў не заўсёды першае каханне заканчваецца так, як таго хацела б маладая парачка. З сумам дзяўчына пачынае задумвацца, пачынае заўважаць, што “не по праўдзе козак жывэ із своею дзеўчынаю”. Яна прадчувае, што мілы можа яе пакінуць.

Ой, каб же я знала, шчо вынь нэ покынэ,
Тоб я его крыльца да й озолотыла.

Дзяўчына, ужо прадбачучы разрыў з мілым, робіцца сумнай і ўсімі сродкамі імкнецца прадухіліць разрыў. Пад’язджае маладзец да варот сваёй “коханкі”, - стаіць дзяўчына “у золыты”, падыходзіць да дзвярэй, - стаіць “на

папэры[6]". Яна ўзяла яго каня за аброць, павяла на "стайнечку", казака – "за рученьку да ў светлыченьку". Корміць яна каня аўсом і сенам, а казака частуе мёдам-віном, спрабуючы дагадзіць яму. Але, усётакі яна "задумала, чорны очы зарумала[7]". Казак пытае яе аб нагодзе суму.

Ой, жаль жа мне по любашчы,
Шчо не жівэм по шчіросты, - адказвае яна.

У другой песьні дзяўчына выказвае сваё гора і сумневы ў наступным паэтычным параўнанні:

Тыхо, тыхо Дунай воду нэсэ,
Ешчэ тышэ дзеўка касу чеше.
Шчо й вычэшэ, то й на Дунай нэсэ:
- Плыві, коса, під зэлэные лугі,
Задай тугу зэлэному лугу,
Задай жалю зеленому гаю.

Нярэдка застаецца толькі адзін сумны ўспамін аб першым маладым каханні:

Любылыся, нас матка нэ знала;
Розышлыся, як цемная хмара.

Але апроч сумных успамінаў ад прыемна праедзеным часе, часьцяком дзяўчыну чакае яшчэ большае гора, - пляма на ўсё астатняе жыццё. У садзе салавей "шчебече", гаворыць песьня, у вадзе працякае рэчка; дзяўчына "хорошаго стану, белэнького ліца" прыйшла ў сад, "як чырвона рожа", а із саду шла "як бела бэрэза", -

У сад ішла белэнькімі ныженькамі,
А з саду вышла дрыбнэнькімі слёзонькамі.

Маладосць, неразуменне жыцця, дзеянне навакольных паэтычных абставін згубілі яе:

Вона думала, шчо трушкі-мінушкі,
Ажно ростуць до утра фартушкі;
Вона думала, што соколык летае,
Ажно ў боку да тэтына брыкае.

Пакінутая каханым у самую цяжкую гадзіну, дзяўчына "трі недзелі ў полозі лежала", выплакаўшы "по мало:

Знаю, знаю, хто дорожкі поробыў, -
Молод барын до дзевіцы прыходыў.

Песень, малюючых сапраўднае гора пакінутай, падманутай жанчыны, шмат: матывы іх вельмі разнастайныя і пранікнуты непадробным народным лірызмам. Мілы "до іншое" ходзіць, кінуў "коморушку", у якой стаіць "постель бела пухова"; яна

Тую ложу рученькамі обняла,
Постэль белу слёзонькамі обліла,

---

6) Г. зн. пабялела як папера.
7) Заплакала

Што на ручках малэнькая дзетына.

Пакінутая маці плача не толькі аб сабе: лёс дзіцяці, знявслаўленага яе ўчынкам, асуджанага на горкае, цяжкае жыццё, разрывае яе сэрца:

Сынку мой, сынку, нэма ў моры лёду, -
Нэма ў тэбэ, сынку, жадного роду,
Ой, сынку мой, сынку, нэма ў моры донца, -
Нема ў тэбэ, сынку, да рыдного ойца!

Матыў аб забойстве незаконнанароджанага невядомы пінскім песьням; ёсць толькі дзве-тры, перадаючыя роздумы маці, што ёй рабіць з дзіцёнкам:

Чі мне тэбэ годуваты,
Чі ў Дунаю поховаты?

Але тут жа дзяўчына ўспамінае, што "пахаваўші – от Бога грэх", хаця і "гадаваўшы – ад людзей смех".

Дарэчы, падобныя выпадкі нешчаслівага заканчэння маладога захаплення ўсёж такі дастаткова рэдкія, значна часьцей, узнікшая ў маладых сэрцах сімпатыя вядзе да шчаслівага заканчэння. Праходзіць вясёлая пара "дзявоцтва", безклапотная вясна жыцця, калі толькі пасьпеўшы разцвісьці "дзявочая краса", ледзь толькі "росая (русая)кэса" вырасла да поясу; наступаюць пасмурныя дні восені ці пасьлякаляднага мясаеда, калі ходзяць сватаць. І дзяўчаты і хлопцы ўжо зараней абдумваюць сваю будучыню, свій лёс. Часта неаднолькавае матэрыяльнае становішча сімпатызіруючых адзін аднаму хлопцу і дзяўчыне, бывае перашкодай для іх шчасьця:

Нэ ведае отэц-маты,
Хто на мэнэ залецаецца, -

гаворыць песьня. Але калі бацька і маці даведаюцца, хто "залецаецца" да іх дачкі, то далёка не заўсёды бываюць згодны на адружанне. Дарэмна прасіць бацьку і маці, - гаворыць хлопец дзяўчыне, - не аддадуць за мяне: у цябе ёсць бацька і маці, яны заможныя;

У тэбэ хата накрытая,
А я – бедный сыротына.

У іншай песьні хлопец раіцца з маці, каго ўзяць:

Чі нэ тую богатую, шчо хороше ўбрана,
Чі нэ тую сыротыньку, шчо к сэрцу прыпала.
У хорошее, ботатое – бычкі да тэлушкі,
У бедное сырытынькі – цыцкі, як подушкі.

Песьня развівае тую думку, што бедная дзяўчына – працаўніца, што само па сабе – лепшы ўклад у гаспадарку: у заможнай "бычкі поздыхалы", а ў беднай "валы забуялы"; бедная "з поля ідэ - скаче", а багатая "з корчмы ідэ - плачэ". Але не заўсёды бедная дзяўчына зразу згаджаецца адружыцца з багаццем:

Ты мэнэ любыш, - я товару (быдла) нэ маю, -

матывуе яна сваю адмову, баючысь папрокаў. Але хлопец пераконвае яе, што ёй не будзе "доганы" (папрокаў) ні ад каго. – "Не доженэшь (папракнеш) ты, дожэнэ твоя маты", - пярэчыць яму дзяўчына і малюе сабе не вельмі прывабнае відовішча беднай нявесткі ў заможнай сям'і. Свякруха кажа:

- Устань, нэвеста, бодай ты не ўстала,
Выжень той товар, шчо од бацькі нагнала.
Устала дзеўчына з белое постэлі,
Ударыласа голывою об двэры:
- Було не браты, шчо з чернымі бровамі;
Було браты, шчо з кыньмы да з воламы.

Кожны восеньскі ці зімовы мясаед сям'я дзяўчыны на выданні з нецярпеннем чакаюць прыбыцця сватоў, робяць усе магчымыя здагадкі, планы. Дарослыя члены сям'і пакепліваюць з маладой, пытаючысь: "а колы ж прышлэ до тэбэ ў сваты Іваска?"

Выпадкі прымусовага адружання, наколькі мне вядома, рэдкія. Гэта тлумачыцца тым, што маладыя людзі збліжаюцца паміж сабой пыкладна роўныя па заможнасьці сваіх бацькоў. Заўсёды ў кожнай вёсцы можна намеціць некалькі груп моладзі, якія складаюцца з выхадцаў ці з заможных ці з бедных сямей; утвараецца як бы некалькі клубаў, кожная група збіраецца на вячоркі ў адной хаце, усе трымаюцца адзін аднаго і пад час летніх свят, ходзяць разам калядаваць і г. д . Паміж прадстаўнікамі таго ці іншага гурта нельга не заўважыць некаторы антаганізм, які ад бацькоў пераходзіць да дзяцей. Пагэтаму апошнія і групуюцца згодна з эканамічным станам першых. Заўважу, дарэчы, што разрозненнасць паміж сялянамі мае ў сваёй аснове не толькі непрыхільныя адносіны бедняка да заможнага, але таксама разрозненнасць эканамічных інтарэсаў і наогул жыццёвых умоў вёскі. Беднякі знаходзяцца ў кабале ў габрэяў, кідаюцца ў заробкі, цэлымі сем'ямі ходзяць на сплаў, так, што зямля перастае быць для іх адзінай крыніцай дабрабыту, запускаецца і апрацоўваецца імі неахвотна. Багатыя сяляне, насупраць, увесь свой дабрабыт бачаць у зямлі, глядзяць з пагардай на тых, хто кідае зямлю і ідзе на промыслы.

Натуральна, што пры такіх умовах жыцця вясковага насельніцтва, зыходзячыяся маладыя людзі належаць да сямей аднолькавай заможнасьці і перашкод да адружання бывае мала; пры тым і бацькі лічацца з жаданнем маладых, зараней прымячаюць, хто да каго мае схільнасць і інш. Але бываюць і выключэнні, выпадкі збліжэння маладых людзей непадыходзячага стану, ці калі бацькі з нейкай нагоды адносяцца варожа адзін да аднаго. Тады сваякі дзяўчыны стараюцца нейкім чынам перашкодзіць адружанню, адмовіць сватам. У песьнях адлюстраваўся і такі момант у жыцці дзяўчыны, калі яна змагаецца з сям'ёй, але павінна ці саступіць знясіленная, ці выкарыстоўваць крайнія сродкі.

Цікава, што ў той час, калі песьні перадаюць нараду маці з сынам наконт няроўнага адружання, самім маладым людзям, зусім не вядомы матыў горкай долі дзяўчыны, адружанню якой перашкаджаюць бацька ці маці, - насупраць, брат у песьнях, з'яўляецца галоўнай асобай, перашкаджаючай збліжэнню сястры са сваім хлопцам, падобна таму, як сястра часам перашкаджае брату, як мы бачылі вышэй. Так, адна песьня, маючая значныя лірічныя годнасьці, пачынаючаяся, пры гэтым, з успамінання Дунаю, што, верагодна, паказвае на яе адносную старажытнасць, - гэта песьня апавядае пра тое, як дзяўчына "до козака

лыст пісала: возьмі мэнэ дзяўчыноньку”. Але казак не хоча браць, таму што у яе “брат проклятый”.

Счаруй брата свого, -
Будэш меты мылэнького, - раіць ён.

Дзяўчына адважваецца і робіць па радзе казака:

Там на елі сонце пэче, з гаду кроў тэче.
Озьмі, дзеўко, кварту-коновачку (кружку),
Постаў пуд гадську головачку…

Сястра “спешно зустречае” брата, дае яму выпіць “піва”, ад якога ён “с кыныка схылыўса”. Але калі яна зноў напісала “лыст” казаку, то атрымала адказ:

Як я маю тэбэ браты, колы умееш чароваты?
Счаровала брата свого, а мылого – нэма й чого.

Нельга не заўважыць, што матыў апошняй песьні мае ўсе падставы, лічыць яе вельмі старажытнай, калі брат спрабаваў не выпускаць сястру з роду, як працоўную сілу, ці пазьней, калі ён выступаў галоўнай асобай пры заключэнні дамовы курлі-продажу маладой. Значэнне брата маладой у выпрацоўцы вясельных умоў і самім вясельным рытуале агульнавядома. Лірыка пінчукоў, маючая ўсе прыкметы архаічнасьці, нават дае брату большае месца ў вясельных песьнях і самым рытуале:

Расплёў братко кэску, да разлыў же мне слёзку
Да по белому лыченьку, по чырвоным нагруднычку.

Другі важны старажытны матыў – выкраданне дзяўчыны – вядомы, амаль выключна, толькі па вясельных песьнях. Малады чалавек збірае усю “родныну ў громаду”, каб усім разам паехаць на цесьця, стаць “своім полком пуд ганком”, выбіць “краменну стэну” і ўзяць “дзевоньку із венком”. Наогул, песень, у якіх малады збірае род, каб “звоеваты” цесьця, здабыць дзяўчыну – шмат. У сваю чаргу, і род маладой прымае захады, каб даведацца, калі зяць прыедзе “воеваць”. У некаторых песьнях можна бачыць сляды ўспамінаў аб згодзе дзяўчыны з хлопцам, ужо пасьля якога адбывалася выкраданне. Дзяўчына наказвае хлопцу прыехаць за ёю “в понеделок ранэнько”, абяцае падцясаць “скрыплывыя” вароты на двары свайго бацькі, паменшыць яго сварлівасць і інш. У песьнях пасьлядоўна адлюстраваўся таксама і той перыяд куплі маладой, калі малады збіраецца яе “выпросіць і выважыць золотою вагою” у яе роду.

Уласна лірычныя песьні, як здаецца, не ведаюць гэтага матыву, ці ж у іх засталіся толькі самыя няпэўныя адгалоскі. Можна знайсьці дзве-тры песьні аб выкраданні “Ганулькі” матросам, або вывязенні дзяўчыны на Дунай-рэчку казаком, які потым кідае яе ў Дунай, ці астаўляе прывязанай да дрэва ў лесе; але гэтыя песьні наўрад ці можна аднесьці да адлюстравання матыва выкрадання дзяўчыны-маладой. Прытым, гэта не выключна мясцовыя матывы; яны вядомы амаль ва ўсім славянскім свеце, што зноў такі паказвае на іх старажытнасць.

Праходзіць вяселле, - і пачынаецца жыццё адружанай жанчыны, поўнае гора і нястач. Лірыка пінчукоў амаль не ведае яе радасьцей, але затое ёй добра вядома яе гора. Асабліва выдатны песьні, малюючыя становішча жанчыны ў сям’і чалавека.

Ой, ты, колына! Ой, ты, чірвоная! Чого рано зацвела?
Ой, ты, дзеўчына! Ой, ты, молодая! Чого хутко змарніла?
- Чі мачоха, чі рэдна маты мэнэ за-муж оддала
На чужіну, у вэлыку сэм'ю: усё я воду подносю.
Ой, выйду я на высоку гору, ой, гляну я, посмотру:
Сюды гляну, туды оглянуса – усе чужа сторона.
Стоіць, стоіць рэдна маты за плечіма ў мэнэ.

Маці раіць ёй вярнуцца, але гэта ўжо немагчыма:

Росчесана, росплетэна моя роса кэса,
Накінэна бела наміточка на мое жоўты волосы.

Горка разважаючы аб сваім становішчы, яна прызывае сваю долю:

Ой, доля моя, доля! Дзе ты, доля, подзеласа?
Боры здрыгнулы, лугі затонулы.
Боры здрыгнулы, шчо тонэнькі голосочок,
А лугі затонулы од дрыбнэнькіх слезочек.

Тым большы смутак і гора маладой жанчыны, калі яна адружываля так рана, што яшчэ

Нэ нажіласа, нэ набыласа,
На свою роднину нэ наглядзеласа,

трапіла на чужую старонку, "од роду одбыласа". Зараз, з чужыны, яна збіраецца пісаць дадому:

Вышчікну два лісточкі, выпішу два пісьмочкі,
Нэхай матка прочітае, нэхай мою беду знае.

Яна не можа забыцца, што ў яе адасобленнасьці быў вінаваты брат, які, як спяваецца ў вясельных песьнях, "продаў сэстрыцу за кончук (нагайка)":

Було ў мэнэ два браточкі, - обое выноваты,
Шчо й оддалы сэстрычку на чужую сторонку.

І зноў трэба адзначыць, што песьня на бацьку нідзе не крыўдзіцца, хоць гэтага трэба было б чакаць, так як ён, перш за ўсё, вінаваты ў несчаслівым лёсе дзяўчыны. Ускосны дакор маці – рыса звычайная, але прамымі вінаватымі песьня называе братоў.

Але, дзе ж прычына, на чым заснавана гора маладой жанчыны? Справа ў тым, што "свэкруха невестушкі нэзнавыдзела"; яна "нэ пускае мэнэ молодую на улыцю гуляць". Нявестка ў новай сям'і адразу трапляе ў падначаленае становішча, із якога ёй цяжка выйсьці, праз варожыя адносіны астатніх членаў сям'і, якія глядзяць на яе, перш за ўсё, як на працоўную сілу, даўно жаданую ў сям'і і із якой спрабуюць атрымаць як мага больш карысьці. Сялянка чакае, не дачакаецца таго часу, калі старой можна будзе адпачыць, усклаўшы ўсю найбольш цяжкую працу на нявестку.

Ох, вэлыкая сэм'я вэчэраты села,
Ох, мэнэ молоду да послала по воду.
Покі ж воду прінэсла, то вэчера одыйшла.
А мой мылый стоіть, проті мэнэ говорыць:
- Чому, мылая, стоіш, чому ложкі нэ мыеш,

Постэль белу нэ стэлеш?

Яна, схаваўшы крыўду, паслала ложак і лягла спаць, але “нэ улежаласа да прыслухаласа”: сям’я чалавека “карае (корыць)”: “Чому жонкі нэ бьеш”? Чалавек, не гледзячы на тое, што сімпатузуе жонцы, мала яе абараняе; ён прапануе сям’і:

“Колы вона сонлыва, то будытэ ее;
Колы вона ніц (нічога) не знае, то вучітэ ее;
Колы вона вам нэ трэба, одсылайтэ ее”.

Чужая сям’я адносіцца да яе сурова: свякруха забараняе нявестцы нават выказваць сваё гора песьнямі.

Сама іду дорогою, а голосок дубровою;

Пачуўшы яго свякруха, “на ганочку седзе, ў оболоночку гледя”;

Колі ідэ дытя мое, то нэхай вэсэлее;
Колі нэвесточка, нэхай прытыхае
І к делу прывыкае.

А свякруха дае ёй самыя цяжкія працы, прытым са строгім наказам. Пасылаючы нявестку вырваць у чыстым полі лён, яна загадвае:

Нэ вырвэшь лёну, - не іды до дому.
Вох і рвала, рвала, да нэ вырвала,
У чыстому полю прыночовала,
У чістому полю прі доліноцце,
Тонкой, высокой тополіноцце.

Мілы ішоў “з Украіноnькі”, куды выслала его маці, падачыў у полі “тополю за тры міленькі”:

Вох, станьмо, братцы, подівэмоса,
Прыдэм до дому, похвалімося:
- Вох, маты, маты, ты ж матусенька,
Што ў нашым полі за тополя ростэ?
Тонка, высока, лыстом широка;
Што од ветрыку похыляетца,
А од солнушка нэ меняетца.

Маці раіць сыну ўзяць “гостру секерку” і зсекчы ў полі таполю. Сekanуў ён раз – таполя здрыганулась,

Секнуў другі раз – аж тело бело,
Секнуў трэцій раз – заговорыла:
- Нэ рубай мэнэ, - я твоя мыла![8].

Аддадзеная “од роду, од родныны”, атрымаўшая наказ маці, “каб у гості нэ бувала”, “шчоб семь лет нэьбувала” – маладая жанчына збіраецца ляцець дадому “у рочок (праз год)” то ў выглядзе ”заўзулькі”, “соколя”. Прыляцела ў сад, “села, упала, у брата ў саду голысно заковала, жалысно заплакала”. Выйшаў брат “зоўзульку гоняты”: “колы сэстра моя, то просю ж до хаты”. У другой песьні

8) Параўнаць “Этногр. Обозрен.” III, 42, 50-2, 211; VI, 234; VII 252.

яна збіраецца ляцець сокалам і ўпасьці “у маткі на порозі”. Маці выйшла “розлыла слезы”,

Ой, покынь, маты, плакаты, да научы гороваты…
Ох, маты ж, маты! Дзе доля дзеласа?
Ой, чі ў огні згорела, чі у Дунаі ўтонула?
Колі ў огні згорела, там лежіць пэпэльце;
Колі ў Дунаі затонула, мат лежіть камэнце.

Такія ўяўленні аб горы жанчыны ў сям'і яе чалавека, покуль яна займае падначаленае становішча ў ёй, пакуль сама не зробіцца гаспадыняй, свякрухай і сама не будзе загадваць сыну “тополю рубаты”. Але гора, перажываемае жанчынай у чужой сям'і не адзінае яе гора ў жыцці; гэтым не абмяжоўваюцца яе нястачы і сумная лірыка пінчука суправаджае жанчыну ва ўсіх шматлікіх выпадках яе жыцця. Не заўсёды толькі ад сям'і чалавека пакутуе жанчына, бываюць і іншыя прычыны:

Выйшла я за-муж молода,
Пэрвая беда, што дзетунушка мала,
Другая беда – свэкровушка ліха,
Трэйцяя беда – мой мылый не любыць.

З трапятаннем у сэрцы, не раз у думках звярталася яна да маці:

Маты ж моя, маты! Мэнэ муж нэ любыть,
До іншое ходыць.

Добра яшчэ калі ёсць радня, ёсць з кім размыкаць гора; але яна часьцяком застаецца круглай сіратой; “помэр отэц-маты, гостына мінэтца”. Няма “гостыны” у родных, няма з кім пагаварыць, адвясьці душу, няма перад кім паплакаць аб тым, што яна “свої лета марно траціць”. Маладыя гады праходзяць пад гнётам нястач і патрэб. Маладая жанчына толькі што разцвіла, увайшла ў жыццё, яе “пэрвый мылый” застаецца тым жа для яе; яна рвецца да яго ўсімі сродкамі сваёй душы: нясе яму абед у поле і ужо задумваецца, лашчыць сябе думкай, “чы нэ скаже мылый сестры”, “чі нэ будэ говорыты”, але чалавек “напыўса, наеўса” і “на роллю схылыўса”. Аб чым ён думае? – пытае яго жонка. Думае ён пра тое, што “неудалу жонку імеет”. Зняважанае пачуццё жанчыны загаварыла ў ёй; яна ўспамінае, што не так даўно і яна была мілая яму, калі яны збіраліся на вячоркі. Яна кажа яму:

Нэ вылезлы тобе очі, -
Нэ свататы було ў ночы;
Було свататы мэнэ ў дзень,
Роспытацца старых людэй!

Не кахаючы чалавек прыходзіць да дому “у белому свеці (на світанку)”, лажыцца спаць “попэрэк кроваті”, да сваёй жонкі “плячыма, а до сцены очыма”.

Ой, одвэрнысь, мылый, я тэбэ розую,
Хоч раз поцелую,-

упрошвае жонка; але яе чалавек гаворыць:

Ох, есць у мэнэ луччейша от тэбэ:
Вона ж мэнэ розуе, сем раз поцелуе.

Бяжыць маладая жанчына да стромкай рэчкі, расказвае другая песьня, каб паглядзець, як яе мілы едзе з другою; паглядзела "да на ніцэ (уніз) лозы похылылыса":

Ой, вень, ветру, повень з далекаго краю!
Нэхай зобачу, по чім же я плачу,
Нэхай надыўлюса, по кім я журуса.

І цяжка ўздыхае маладая, лажучыся і ўстаючы "сама молодэнька" на "постэлі пуховенькой". Некалькі песень раапавядае, як жанчына бяжыць за мілым "у погынь", пытаецца калі ён вернецца, зве "вечераты", але атрымлівае адказ: "вэчерай сама", застае мілага седзячым "у суседкі за сталом" і г. д.

Не заўсёды справа абмяжоўваецца толькі душэўнымі мукамі. Чалавек, "п'яніца-ледашчыца", чужой жонцы

Мэдь, горелку купуе,
А на свою нэўдалочку да ногайку готуе.

Нясе чалавек, апавядае іншая песьня, пад палою "ногаю дротяную", вярнуўшысь дадому "к білому світу", і загадвае жонцы ісьці ў карчму і выкупіць каня варанога:

Як выкупышь – люблю тэбэ,
Нэ выкупыш – уб'ю тэбэ,
Уб'ю тэбэ замордую.

"Ногай дротяный" (перавіты провалкай) часта ходзіць па "белу целу" гаротнай жанчыны:

Як ударыў мэнэ да по белому плечу, -
Полылася кроў горяча, побежала по ліцу.

Ці вось так чалавек пагражае мучыць сваю "шельму" жонку: ён прывязе ёй з гораду "ногай дроцяный", прывяжа да сівага каня і пусціць у чыста поле, -

Нэхай собе конь нагуляетцца,
А шельма жона научаецца.

Доля жонкі, малюецца ў змрочных танах нават тады, калі мілы не здраджвае ёй. Адна песьня малюе яшчэ больш сумнае відовішча сялянскіх сямейных абставін. На поле "ратай" арэ і паглядвае на дарогу: чужыя жонкі абед нясуць, яго – не. Кінуў ён валоў і ідзе дадому:

Ўступыў я на подвыр'е, - подвыр'е мое нэ вэсэлое,
Ўступыў я ў рэдэньку, - рэдня моя нэтопяна:
Да жена сына родыла, дай на векі заснула.
Чі нэ було дытяты да воды податы?
Чі нэ було суседочкі кому ратоваты?

Гэта невялікая замалёўка, выхапленая прама з жыцця, малюе адну са шматлікіх праяў сялянскай бяды. Але не заўсёды доля жанчыны мае такое сумнае заканчэнне: праходзяць гады, баязьні за нявернасць мілага няма месца, вырастаюць дзеці, яна станавіцца гаспадыняй, сама мае нявестак, распараджаецца імі; прыходзіць, відаць, пара адпачынку.

Але гэтыя светлыя хвіліны азмрочваюцца новым горам: сын падрастае, набліжаецца час ісьці яму ў жаўнеры; жаночае сэрца, аддаўшае ўсю сваю увагу,

усю пяшчоту і клопаты любімаму сыну, атрымлівае новыя выпрабаванне. Са слязамі маці збірае сына.

- “Наплачесса той час, матко, як буду ў дорозі”

спыняе ён яе.

Нэ кажі, сыночку, цяжкімі словамі,
Буду тэбэ обліваты дрібнымі слёзамі, -

адказвае яму маці.

Не лепш яе лёс і тады, калі застаецца ўдавой:

Зашумело дэрэво (2) над водою стоячі,
Заплакала ўдова (2) сына Йвана родзячі.

- “Шчо мне тобе робыты?” – пытае яна сына: адружыць цябе, ці аддаць у жаўнеры? На гэта сын адказвае:

- Матко ж моя старэнькая,
Як голубка сывенькая,
Як ты мэнэ оженыш,
Сэрцэ свое звэсэлыш;
А ў солдаты оддасы,
Сэрцю жалю задасы.

Такія, у галоўных рысах, нягоды горкай жаночай долі, пра якія ведаюць песьні пінчукоў, ад маладосьці жанчыны да самай старасьці.